№1

2008
ЧЭРВЕНЬ

# Каліноўскі ВЕСЬНІК




Моладзевае незалежнае грамадзка-палітычнае выданьне Першамайскага раёну горада Менску

Галоўная навіна

## Папа Римский поддерживает стремление белорусов к свободе

**Римский Папа Бенедикт XVI заявил, что Ватикан будет поддерживать белорусов в их законных стремлениях к свободе и укреплению демократии.**

Такія словы прагучалі на аўдыенцыі новых паслоў пры Святым Пасадзе. У іх ліку быў таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь Сяргей Алейнік. Папа Бенедыкт XVI запэўніў яго, што Святы Пасад па-ранейшаму будзе аказваць падтрымку беларускай нацыі ў яе намаганнях па зацвярджэнні адпаведных для яе законных імкненняў да свабоды і ў яе дзеяннях па ўмацаванні дэмакратычнага працэсу — як частцы вялікай сям'і свабодных і суверэнных еўрапейскіх нацый.



*"Беларусь, паклікана ўносіць свой уклад у будаўніцтва агульнага Эўрапейскага дому, у якім межы разглядаюцца як месцы сустрэч, а не як лініі падзелу або неадольныя муры", - сказаў на сустрэчы святы айцец.*

**Экскурс у гісторыю**

Дзесяцігоддзямі Еўропа актыўна вучылася ствараць будучае свету і прагрэсу, пераадольваючы балючыя падзелы. Гэты высакародны праект, матываваны сэнсам раздзеленай адказнасці за агульны лёс еўрапейскіх народаў, мае непамерную каштоўнасць. Дасягнуць такой амбіцыйнай мэты будзе нялёгка. Фактычна, гэта патрабуе ад усіх далучаных бакоў правядзення пастаяннага, шчырага і разумнага дыялогу, заснаванага на сапраўднай салідарнасці, і поўнай пашаны да законных спадзяванняў, гістарычных абставінаў і адметнасці іншых.

**Меркаванне**

Дзеля гэтай мэты кожная нацыя кантынента, у тым ліку Беларусь, паклікана ўносіць свой уклад у будаўніцтва агульнага Еўрапейскага дому, у якім межы разглядаюцца як месцы сустрэч, а не як лініі падзелу або неадольныя муры. Між тым, гісторыя, духоўныя і культурныя карані, а таксама геаграфія Беларусі даюць ёй магчымасць адыгрываць інтэгральную ролю ў гэтым працэсе. Тое, што аб'ядноўвае нацыі Еўропы, больш важна, чым любыя палітычныя, эканамічныя і культурныя фактары, якія іх яшчэ падзяляюць, адзначаюць айцы Рымска-каталіцкага касцёл ў Беларусі."

Особый случай

## Власти эксперементируют

**На воде для жителей Первомайского района экономят.**

По словам главного инженера Минских тепловых сетей Александра Драгуна, эксперимент по окрашиванию горячей воды в светло-зеленый цвет, будет продолжен в предстоящем отопительном сезоне.

Это делается для того, чтобы «снизить затраты на производство топливно-энергетических ресурсов» и как следствие «сэкономить». Вода окрашивается при помощи специального красителя – флуоресцеина.

Насколько это безопасно для здоровья людей и как относятся к этому жители района, читайте в следующем номере.

Подготовила Мила Лукианина

Слово не воробей

*"Не верьте, будто Президент настолько занят, что у него нет на вас времени. Если не пить каждый день, время на все найдется. И не слушайте тех, кто винит во всем плохих чиновников, которые все решают за Президента. Я сам там все решаю, и сам за все несу ответственность. (5.05.1999. Книга "Белорусский дневник", Минск, 1999)*

Трэба ведаць




**Малады Фронт** – агульнабеларускі моладзевы рух, заснаваны на нацыянальнай ідэі і хрысьціянскіх прынцыпах. Мы выступаем за незалежную, дэмакратычную Беларусь, якая будзе будаваць свае законы на духовым падмурку законаў Божых.
**Нашыя каштоўнасці**: нацыянальная ідэя і хрысьціянскія прынцыпы.
**Наш лозунг**: Бог, чалавек, Бацькаўшчына.
**Наш галоўны прынцып**: да пераменаў у Беларусі, праз унутраныя перамены кожнага беларуса.
**Далучайся!**
Стань у барацьбе за свабоду, праўду і справядлівасьць разам з намі!
**БЕЛАРУСЬ ЧАКАЕ ЦЯБЕ!**

**www.mfront.net**

Што? Дзе? Калі?

## "Выбары" пройдуць на плошчы




**Малады Фронт аб'явіў байкот так званым "выбарам". І заклікае беларускіх грамадзянаў галасаваць толькі на цэнтральнай плошчы Каліноўскага.**

Яшчэ не стартавала парлямэнцкая кампанія, а будучыя "выбары" ўсё болей і болей нагадваць гульню аднаго актора. Да галасаваньня болей за чатыры месяцы, а старшыня ЦВК Беларусі, Лідзія Ярмошына, ужо заявіла аб тым, што не валодае паўнамоцтвамі ўвядзеньня прадстаўнікоў партыяў у выбарчыя камісіі; адміністрацыя ж прэзыдэнта, у асобе Натальлі Пяткевіч, увогуле сьведаміла, што ня будзе нават дыялёг весьці з апазыцыяй па пытаньню выбараў. Непрыхаваны фарс сьведчыць аб тым, што ўлада не зьбіраецца лібералізаваць выбарчае заканадаўства і працэс галасаваньня.

Удзел у такіх "выбарах" ёсьць ня толькі немэтазгоднаю, але і абсурднаю справаю, якая адно дапаможа легітымізаваць самаабвешчаны рэжым Лукашэнкі. Голас беларуса ўжо скрадзены. І Лукашэнка палічыць яго толькі ў адным выпадку, калі ўсе мы выйдзем на галоўную плошчу Беларусі, на плошчу Кастуся Каліноўскага.

Таму Малады Фронт заклікае ўсіх беларусаў байкатаваць псэўдавыбары і прыходзіць у дзень галасаваньня на плошчу Каліноўскага (станцыя мятро "Кастрычніцкая"), адзінае месца ў нашай краіне, дзе хлусьня ЦВК ня дзейнічае. Адзінае месца, дзе "моцная" улада становіцца слабою і трусьліваю. Адзінае месца, дзе галасы нашыя дадуць Беларусі надзею на перамены!Далучайцеся да кампаніі.

**Па інфармацыі прэсс-службы "Малады Фронт"**